 




Аля з Гайнаўкі. Фота Я. Цялушэцкага.

№ 43 (926) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 26.X.1975 г.

 

**С. Іваноў**

# Двойка

Канчаўся школьны дзень. Настаўніца рабіла запіс у журнале, дзяжурныя раздавалі сшыткі — там былі ацэнкі за ўчарашняе заданне дадому. Яшчэ паўмінуткі, і птушкай паляціць па калідоры званок — Ленка ўсёй душой чакала гэтага моманту!

Але званок не звінеў — заняткі працягваліся. Дзяжурны Жэнька раздаваў сшыткі, а сам усё зазіраў у сярэдзіну і рабіў міны — каму якую ацэнку паставілі. А настаўніца нічога не заўважала, таму што яна глядзела ў журнал.

Ленка сваё заданне зрабіла кепска. Яна сама ведала, што кепска: ногі ў літар раз'язджаюцца, як на лёдзе. Некаторыя літары атрымаліся тлустыя, а некаторыя наадварот — быццам іх толькі што выпісалі з бальніцы.

Вось зараз, мабыць, Жэнька загляне ў яе сшытак і такую міну зробіць! Ленка хутка ўстала:

— Таццяна Сяргееўна! А чаго Жэнька...

Настаўніца падняла галаву. Адразу ўсе прыціхлі пад яе позіркам. Жэнька пачаў раздаваць сшыткі ўжо не падглядаючы. Ленка з палёгкай уздыхнула. І тут пачула:

— Скаржыпыта!

Вось да чаго дажылася: нават скаржыпыта! А ўсё з-за гэтай школы!

Яна злосная вярталася дадому. Побач у сумцы ехала двойка. Ленка ўвесь час адчувала яе. Так і хацелася кінуць сумку незаўважна куды-небудзь за сметнік і пайсці.

У школе ў Ленкі не выходзіла амаль з першага дня. То адно, то другое, то сшытак згубіць, то ручка не піша. Няшчасце за няшчасцем.

Як добра было ў прадшколлі! Ленка тады гэтага не разумела, казала сабе: „А што там прадшколле!“ А на самай справе... Ленка ўздыхнула... Там, калі ты нават і брыдка намаляваў, дык што — ніхто табе двойку не паставіць. Прагуляў цэлы дзень — заўвагі не запішуць і маму выклікаць не будуць. Туды наогул нават — хочаш хадзі, хочаш не хадзі, як хочаш! Там дзянёк або два прапусціш, у цябе запытаюць: і „Што, хворая была?“ А ты адкажаш: „Не. Мяне мама не пусціла“. Вось і ўсё. І сядзіся да стала, еш снеданне. А ў школу трэба абавязкова хадзіць. Абавязкова! Нельга ўжо ні схаваць чаравік, ні плакаць раніцай, што рана разбудзілі.

Ленка ўздыхнула. Яна ішла цяпер вельмі павольна, апусціўшы галаву, падштурхоўваючы нагою сумку. Раптам яна падумала: „Пайду туды адзін разочак... Хоць пагляджу...“

Яна не была ў прадшколлі з самай вясны. Хоць ім выхавацелька і казала: „Прыходзьце“, але Ленка так ні разу і не прыйшла. Яна думала: „Чаго гэта я буду, школьніца, да малых хадзіць“. Цяпер ёй было сорамна.

Праз знаёмыя веснічкі Ленка ўвайшла на двор. Ён быў вялікі, з вялізнымі дрэвамі. Зімой тут навальвала шмат снегу. На вуліцы снег счышчвалі амаль да сняжыначкі, а ў іх гурбы як горы. Іншы год бывае вышэй за людзей.

Цяпер, у кастрычніку, з дрэў

ападала лісце. Адно асабліва вялікае і старое дрэва, клён, стаяла не простае, а цяжка схілялася набок. Лісце з яго ляцела за высокі каменны мур, які аддзяляў прадшколле ад вуліцы. Ленка глядзела на ўсё гэта і ўспаміналаа прагулкі, сакавіцкіх снегавікоў, святочныя ранішнікі. А лісце кружылася і падала — жоўтыя дываны-самалёты...



Раптам яна пачула сваё імя і павярнулася на знаёмы голас. З ганка глядзела на яе пані Ларыса. Ленка зрабіла некалькі радасных разгубленых крокаў... Успомніла пра сумку ў руцэ — сумка з двойкай! Але нічога нельга было ўжо зрабіць. Ленка ўзышла на ганак.

У прадшколлі быў якраз шумны перадабедні час. Той-сёй ужо стаяў ля дзвярэй у сталоўку, іншыя яшчэ толькі беглі мыць рукі.

— Паглядзіце, хто да нас прыйшоў! — голасна сказала пані Ларыса. — Усе памятаюць Лену?

Яны яе, вядома, памяталі, яшчэ як! Але цяпер яна была ўжо не тая Лена. Дарослая. Яны разглядалі Ленкін школьны фартушок, блакітныя стужкі ў валасах, сапраўдную школьную сумку.

— Ну, дзеці, можа хочаце штонебудзь запытацца ў Лены? — выхавацелька агледзела ўсіх з усмешкай. — Пытайцеся! Сапраўдная вучаніца да вас у госці прыйшла.

Аднак усе стаялі нерухома, не раскрываючы рота.

— Ну, дзеці?.. — пані Ларыса паглядзела на Ленку, на малых. — Тады што ж... Пойдзем усе разам абедаць. Рукі памылі? Пойдзеш з намі, Лена?

— Я ўжо абедала, у школе. Мне трэба ўрокі рабіць...

— Шкада! Ну, прыходзь тады іншым разам. Мы з дзецьмі будзем цябе чакаць. Прыйдзеш?

Ленка кіўнула. Яны стаялі ўдваіх з пані Ларысай і глядзелі, як дзеці ішлі абедаць.

Праўду кажучы, Ленцы вельмі хацелася ісці разам у сталоўку. І зусім не галоўнай хацелася быць сярод дзяцей, не старэйшай, не вучаніцай. Проста дзяўчынкай. Хоць каб тыдзень так пажыць, хоць дзянёчак — зразумелым, вясёлым жыццём прадшколля... Але што ж рабіць, калі ты ўжо вучаніца. Назад у прадшколле не пабяжыш...

Вярталася яна дадому той самай дарогай, якой яе заўсёды вадзіла бабуля, або мама ці тата. Але цяпер Ленка ішла адна, і ў руках яе былі не лялька і не мядзведзік, а школьная сумка з першай у яе жыцці двойкай. І трэба было ісці дадому, садзіцца да стала і пісаць літары старанна, чыста і прыгожа.

**Уладзімір Ляўданскі**

# ЦЫЦЕХА

Была глыбокая восень. Аднойчы захацелася мне пахадзіць па лесе, адпачыць, падыхаць чыстым паветрам. Выбраўся я з дому яшчэ зацемна. Ускінуў на плячо стрэльбу і падаўся на Казёншчыну — вялікі стары лес, які цягнецца на дзесяткі кіламетраў. Тутэйшыя людзі расказвалі, што ў гэтым лесе, на прагалінах, збіраецца ўвосень шмат цецерукоў.

Раніца выдалася ціхая, туманная. Вецер ужо абарваў з дрэў пажоўклае лісце, разнёс яго па лесе, услаў пазалотай сцежкі, лагчынкі, падножжы дрэў і кустоў. Толькі дзе-нідзе можна было заўважыць цёмна-бронзавую карону дуба, які ўпарта не хацеў расставацца са сваім летнім убраннем.

У бары, праз які я ішоў, было нязвыкла ціха. Усе лясныя спевакі — дразды, шпакі, гарыхвосткі, малінаўкі і іншыя шчабятухі — ужо даўно пакінулі нашы лясы і паляцелі на поўдзень. Толькі зрэдку можна было пачуць прарэзлівы голас патрывожанай сойкі ды глухі стук дзятла, які выдзёўбваў нешта з-пад кары на сухой елцы.

Каля гадзіны я хадзіў па лесе, але нічога не чуў, апрача шалясцення лісця пад нагамі ды трэску сухіх галінак.

„А што, каб падацца на Рапы? Там шмат маладога асінніку“, — падумаў я і прыбавіў кроку. На грудку ў густым маладым сасонніку ўзагнаў двух цецерукоў. Птушкі так нечакана ўзарваліся з густога верасу і так шпарка нізам шуганулі ў розныя бакі, што я нават стрэльбы не паспеў зняць з пляча.

На невялікай паляне, акружанай асіннікам, я выбраў густы арэхавы куст і ўлез у яго, спадзеючыся, што цецярукі абавязкова прыляцяць сюды, на маладыя асінкі, пажыраваць.

Прасядзеў я тут досыць доўга. Разы тры ў куст прылятала сінічка. Адзін раз так блізка села каля мяне на галінку, што я добра разгледзеў не толькі яе жоўтыя шчочкі, сінія з белай палоскай крылцы і чорную, амаль праз увесь жывот манішку, але і яе маленькія бліскучыя чорныя вочкі. Яна некалькі разоў нахіляла галоўку, са здзіўленнем разглядала мяне, потым ціхенька папярэдзіла аб нечым і паляцела на бярозу.

Выявіла мяне сарока і так моцна затрашчала, што адразу ж прыляцелі яшчэ дзве траскухі і таксама ўзнялі лямант на ўвесь лес. Цяпер ужо сядзець мне тут не было ніякага сэнсу, і я, раззлаваны паводзінамі белабокіх здрадніц, мусіў пакінуць сваё сховішча. Сарокі прарэзлівым крыкам правялі мяне да густога ельніку і супакоіліся, а я пайшоў далей.

Ля ўзгорка пад старымі елкамі я заўважыў ладныя стажкі свежага жоўтага пяску. Калі падыйшоў бліжэй, убачыў норы, а на пяску сляды барсука. „Бач ты, дзівак, яшчэ не ўлёгся на зіму“, — падумаў я. Мне захацелася хоць раз зірнуць на гэтага цікавага звера зблізку. Я адыйшоўся ад нор і схаваўся пад невялікай густой елкай.

Мінула каля гадзіны, а барсук не вылазіў з нары.

Павеяў лёгкі ветрык. Густы туман, які да гэтага часу ахутваў вяршаліны дрэў, павольна заварушыўся і пачаў рассейвацца. Недзе на старой елцы некалькі разоў пракаркала варона. Нібы ў адказ ёй, затрубіў крумкач. Ці то ад доўгага напружанага чакання, ці ад таго, што стала крыху зябка, я страціў надзею і ўжо хацеў вылазіць са свайго сховішча, як раптам над адной нарой штосьці мільганула, і неўзабаве я ўбачыў у густым верасе нешта шэрае. Праз нейкую хвіліну я ўжо добра мог разгледзець прысадзістага светлашэрага з дзвюма чорнымі палосамі праз усю галаву барсука, які спяшаўся да нор. Час ад часу ён спыняўся, абмінаў высокія пні і кусты.



Каля нары, што выходзіла з-пад тоўстага яловага кораня, барсук прысеў, задраў сваю паласатую галаву, павадзіў чорным носам наўкол і сігануў у дзірку. Амаль у гэты ж момант я пачуў глухі падземны ні то енк, ні то брэх малога шчанюка. А яшчэ праз некалькі секунд з нары выскачыў ускудлачаны рыжы ліс і, як апантаны, доўгімі няроўнымі скачкамі кінуўся ў гушчар. Выгляд у яго быў такі смешны, што я ледзьве ўтрымаўся, каб не зарагатаць. Барсук жа, які высунуўся да палавіны, не пагнаўся за лісам, а толькі паглядзеў услед уцекачу і зноў знік у нары. Потым пачаў выкідваць з яе мох, сухое лісце, тонкае галлё — адным словам усё, што раней падрыхтаваў сабе на зіму.

Мяне спачатку здзівілі яго паводзіны, а потым я ўспомніў расказ старога Базыля пра тое, што барсук страшэнна не любіць смуроду ліса і калі апошні паляжыць на яго пасцелі, то барсук абавязкова выкіне яе і ачысціць нару. Базыль нават сцвярджаў, што ліс гэта добра ведае і так выжывае гаспадара з яго нары, каб потым заняць яе самому. Але на гэты раз нягодніку не ўдалося выжыць гаспадара: барсук, адлупцаваўшы захопніка, рашыў ачысціць сваю хату і застацца ў ёй, бо капаць новую было позна.

Доўга я назіраў, як гэты кудлаты чысцёха старанна прыбіраў сваё памяшканне. А калі вылез і са злосцю пачаў адграбаць выкінутае далей ад нары ды яшчэ гідліва пры гэтым чмыхаць, я не вытрымаў і засмяяўся. Барсук на нейкі момант спыніўся, стаў слупком і сігануў у нару. Пасля гэтага ён болей не паказваўся.

Я пачакаў якую паўгадзіну і пакінуў сваё сховішча.



# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ





## ШТО ЗА ЛЮДЗІ — ШАСЦІКЛАСНІКІ?

Вельмі непаседлівы народ! Рукі, ногі, галовы — усё ў іх у нястрымным руху. На ўроках яны, здаецца, і пяці мінут не могуць выседзець спакойна: нехта ківаецца з боку на бок, іншы шурае нагамі пад партай.

Прыгледзьцеся: дзяўчынкі значна вышэйшыя, чым хлопцы. Дванаццаць год — час, калі ў дзяўчынак вельмі паскорваецца рост. Розніца наглядаецца і сярод саміх дзяўчынак.

Сярод хлопцаў індывідуальная розніца яшчэ большая. Адны па знешняму выгляду зусім не адрозніваюцца ад адзінаццацігадовых, у іншых паяўляюцца першыя прыкметы мужання.

Гэта ўсё змены, якія кідаюцца ў вочы. Але за імі крыюцца працэсы бурнага развіцця дзіцячага арганізма. Растуць косці, робяцца ўсё больш моцнымі, касцянее шкілет. Узмацняецца дзейнасць розных залоз, развіваецца нервовая сістэма. Але развіццё гэта зусім не прыходзіць раўнамерна. Рост груднай клеткі адстае ад росту цела. Рост сэрца апярэджвае рост крывяных сасудаў. Гэта мае свой уплыў на дыханне і працу сэрца. Таму вельмі шкодны ў гэтым узросце вялікія фізічныя нагрузкі. Хлопцы стараюцца развіваць у сабе фізічную сілу і часта робяць гэта без патрэбнага пачуцця меры. Дванаццацігадоваму чалавеку патрэбны здаровы рэжым працы і адпачынку. Вось прыклад. Па дадзеных з доследаў, праведзеных доктарам М. Андропавай, у пісьмовых працах шасцікласнікаў, якія напярэдадні леглі спаць на паўтары-дзве гадзіны пазней звычайнага, колькасць памылак павялічылася ў 4-9 разоў!

Сказанае аднак не значыць, што хлапчукоў у гэтым узросце трэба адсунуць ад працы. Не менш перагрузак шкодна таксама лянота і выгодніцтва, якія асабліва развіваюцца ў гэтым узросце, калі не выпрацавана звычка пераадольваць ляноту і знаходзіць сапраўдную прыемнасць у працы і спорце.

У гэтым узросце чалавек старанна пачынае прыглядацца да самога сябе, вывучаць сябе. І ў гэты час вельмі важна, каб чалавек гэты ведаў, якім ён хоча быць, якім быць стараецца.

Дванаццацігадовы чалавек хоча, каб яго лічылі дарослым і вельмі крыўдзіцца, калі да яго адносяцца як да дзіцяці. Цікава, што ў эксперыменце, які правёў у свой час вучоны М. Якабсон, калі вывучаліся адносіны вучняў розных класаў на некаторыя парады дарослых, дык, напрыклад, на параду цяплей апрануцца паслухалася 50 працэнтаў чацвертакласнікаў і 50 працэнтаў сямікласнікаў, і толькі 18 працэнтаў шасцікласнікаў.

Усё гэта таму, што дванаццацігадовы чалавек сам у душы разумее, што ён яшчэ не дарослы, і таму аказія праявіць сваю дарослаcць вельмі яму патрэбна.

А наогул дванаццацігадовы чалавек вельмі любіць, калі да яго адносяцца ветліва, і тады сам ён вельмі добры.

**Паводле В. Матвеева**

# СЫН ДОБРАГА ГАСПАДАРА



Ваня Бядрыцкі жыве ў вёсцы Кнаразы. Вучыцца ў шостым класе пачатковай школы ў Храбалах.

Бацька Вані, Кастусь Бядрыцкі, славіцца ў наваколлі тым, што ён выдатны гаспадар. У яго дзесяць гектараў зямлі. Гадуе ён 16 галоў быдла і больш 50 свіней.

Бядрыцкія цяпер будуюць сабе новы мураваны дом. Працы на ўсіх хапае. Ваня ахвотна дапамагае сваім бацькам і пры будове і ў гаспадарцы.

Наогул, Ваня ўжо вельмі самастойны хлопец. У той дзень, калі мы наведалі Кнаразы, Ваня сам ездзіў у Бельск па справункі. Бацька даверыў яму 1800 злотых. За гэтыя грошы Ваня купіў сабе прыгожую куртку, школьную сумку і патрэбныя вучнёўскія прылады. З выдадзеных грошай дакладна разлічыўся перад бацькам.

Яшчэ трэба дадаць, што Ваня Бядрыцкі выпісвае „Ніву“ і ахвотна чытае „Зорку“. У Вані ёсць яшчэ малодшы брацік Валодзік. Дык і яму „Зорка“ вельмі падабаецца.

Бацька спадзяецца, што яго сын будзе за некалькі год самастойна весці гаспадарку. І гэтыя бацькавы думкі цешаць Ваню.

**В. Рудчык, фота аўтара**

## Пазнаёмімся

* ✲ *

СССР, г. Ростов на Дону, пос. Чкалова, ул. Беломорская, 11. Ковалёвой Людмиле. Дзяўчынцы 13 год, яна выдатніца, збірае паштоўкі, паштовыя маркі, карцінкі на калькаманіі.

## АДКАЗ НА ЛАГІЧНУЮ ЗАДАЧУ З ПАПЯРЭДНЯГА НУМАРА

I месца — Ухтар (20+20=40). Інструктар Галкін.

II месца — Вулкан (19+18 =37). Інструктар Лазычаў.

III месца — Казбек (16+19=35). Інструктар Чарноў.

IV месца — Надзір (18+15=33). Інструктар Сняжко.

V месца — Амур (15+15=30). Інструктар Клімаў.

**Яўген Крупенька**

## РАБІНКА

*Усе дрэвы голыя,*
*А рабінка ў полымі.*
*Агністыя гронкі*
*Палаюць, як зоркі.*
*І стаіць рабінка,*
*Як сястра Ірынка,*
*На яе галоўцы*
*Чырвоная хусцінка.*





## ТАПОЛІ

*Сонца яркае на небе,*
*Паглядзіш — аж вочы слепіць.*
*Бо на хаты і на луг*
*Цёплы снег ляціць, як пух.*
*Як абрусам саматканым,*
*Навакол усё заслана.*
*Снег спадае на зямлю.*
*Я лаўлю яго, лаўлю.*
*Мае звычкі снег свае —*
*У руках не растае.*
*Не растане ён ніколі —*
*Цёплы снег ляціць з таполяў.*

## •А•Д•Г•А•Д•А•Н•К•А•




**Якому каўбою не ўдалося схапіць каня на аркан?**

Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1,